наша
# свабода

№88(175) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

17 ЖНІЎНЯ 2001 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ



## Настал час агитации

15 августа Центризбирком Беларуси провел жеребьевку по распределению эфирного времени на государственном ТВ (а другого в стране просто нет) и радио между 4 кандидатами на пост президента.

Лидер Либерал-демократической партии Сергей Гайдукевич, председатель Федерации профсоюзов Владимир Гончарик, экс-губернатор Гродненской области Семен Домаш и первый президент Беларуси Александр Лукашенко получат возможность выступить 2 раза по 30 минут на ТВ и столько же на национальном радио.

Вместо самих кандидатов могут выступать их доверенные лица, число которых у каждого из четверки претендентов по закону не должно превышать 30. На том же заседании ЦИК провел регистрацию доверенных лиц. У С.Гайдукевича и А.Лукашенко их максимум — 30 человек, причем за действующего президента будут агитировать такие лица, как Михаил Финберг (член верхней палаты Национального собрания и руководитель первого оркестра программы ОРТ «Угадай мелодию») и бывший первый секретарь ЦК компартии Белоруссии еще времен СССР Ефрем Соколов.

Оппозиционные кандидаты и партнеры В.Гончарик и С.Домаш ограничились списками доверенных лиц по 28 человек. У господина Домаша таким лицом стал известный журналист и политик Валерий Щукин, который день выборов 9 сентября встретит в арестном доме, куда его на 3 месяца засадил суд за попытку без разрешения пройти в министерство внутренних дел на пресс-конференцию шефа МВД.

Примечательно, что предвыборные выступления будут транслироваться только в записи. Государственное ТВ заявляет, что выделит для записи только 60 минут. Это означает, что если кандидат запнется или сделает ошибку, то никто эту запись редактировать не будет — все пойдет в эфир в первозданном виде. «Кандидат должен уметь выступать», — заявило руководство БТ.

Первое телевыступление выйдет в эфир 21 августа — парад кандидатов откроет Сергей Гайдукевич, а сразу после него выступит Семен Домаш. Ожидается, что именно в этой речи он заявит о снятии своей кандидатуры в пользу Владимира Гончарика, который обязался в случае победы сделать господина Домаша руководителем правительства с расширенными полномочиями.

22 августа покажут записи А.Лукашенко и В.Гончарика. Затем БТ сделает недельный перерыв. Вторые и последние выступления кандидатов выпустят в телеэфир 28 и 29 августа. Стоит отметить, что время эфира было выбрано самое неудобное — с 18 часов 30 минут до 19 часов 30 минут минского времени. Именно в это время горожане возвращаются домой с работы.

На радио же был выделен утренний час — с 8-30. Трансляция выступлений также в записи состоится 23-24 и 30-31 августа.

**Агентство «Ю.С.Ньюс» (www.yusnews.com)**

## Ганчар да Шэймана не звярталася

У НАШАЙ СВАБОДЗЕ №85 ад 13 жніўня была змешчаная інфармацыя «Ганчар патрабуе дапытаць Лапаціка», дзе паведамлялася, што жонка зніклага вядомага беларускага палітыка Віктара Ганчара звярнулася «з заявай у Камітэт дзяржаўнай бяспекі, міністэрства ўнутраных справаў і Пракуратуру Беларусі на прадмет працягу расследавання справы аб знікненні яе мужа».

Зінаіда Ганчар пазваніла ў рэдакцыю, каб зрабіць удакладненне, што яна звярнулася з гэтай заявай у сталічную гарадскую пракуратуру, а аніяк не ў Пракуратуру Беларусі, дзе кіраўніком Віктар Шэйман, які, паводле абнародаваных нядаўна Уладзімірам Ганчарыкам дакументаў, ёсць адным з падазраваных у дачыненні да знікненняў вядомых у краіне асобаў.

# Непажаданыя назіральнікі

*Беларускія ўлады дэманструюць упартае нежаданне бачыць на выбарчых участках незалежных назіральнікаў. 29 прадстаўнікоў Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека АБСЕ па-ранейшаму не могуць патрапіць у Беларусь, каб прыступіць да выканання сваёй місіі доўгатэрміновага назірання.*




Мы звязаліся з Граерам Бальянам, кіраўніком аддзела па выбарах БДІПЧ, які ачольвае місію назіральнікаў для Беларусі. Сп. Бальян паведаміў нам, што па стане на ўчарашні дзень ніхто з назіральнікаў так і не змог атрымаць уязных візаў у нашу краіну.

— Мы атрымалі афіцыйнае запрашэнне ад беларускага міністэрства замежных справаў прыехаць у Беларусь 15 жніўня. Мы адразу звярнуліся ў беларускую амбасаду ў Варшаве, каб атрымаць візы, бо без візаў мы не зможам патрапіць у Беларусь, але пакуль у нас няма ніякіх звестак адтуль.

***— А вы спрабавалі звязвацца з персаналам амбасады, каб удакладніць тэрміны выдачы візаў?***

— Так, мы знаходзімся ў кантакце з амбасадай. Нам паведамілі, што мы зможам атрымаць візы 16 або 17 жніўня. Але вось 16 ужо амаль скончылася, а візаў няма. 17 – гэта ўжо пятніца, потым будуць выхадныя... Мы гатовыя ў любы момант вылецець у Беларусь, дзве гадзіны – і мы ў Мінску. Але для гэтага патрэбны дазвол на ўезд.

***— Нават калі вам пашанцуе, і вы прыедзеце 17-га, ці не запозна гэта будзе?***

— Сапраўды, у любым выпадку мы прыедзем запозна. Мы ўжо прапусцілі шмат вельмі важных падзеяў – такія, як збор подпісаў за кандыдатаў, іхняя афіцыйная рэгістрацыя і пачатак перадвыбарнай кампаніі. Гэта ўсё вельмі важныя часткі выбарчага працэсу.

***— Скажыце, спадар Бальян, а ці былі ў гісторыі прэцэдэнты, калі нейкая іншая краіна, якая ўваходзіць у АБСЕ, адмовіла назіральнікам АБСЕ ў прыездзе або сама вызначала тэрміны іхняга прыезду?***

— Не, такога яшчэ не надаралася ніколі. Ніколі назіральнікам ад БДІПЧ АБСЕ не адмаўлялі ў дазволе прыехаць у краіну, дзе праводзяцца выбары. Беларусь – гэта першая такая краіна.

***— Як вы можаце ацаніць важнасць сваёй місіі? Ці могуць іншыя краіны на падставе вашых справаздачаў не прызнаць вынікі прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі 9 верасня?***

— Я ведаю, што ўсе краіны, што ўваходзяць у АБСЕ, вельмі шчыльна сочаць за падзеямі ў вашай краіне. Яны будуць уважліва вывучаць вынікі нашай працы. Але якія палітычныя рашэнні яны будуць прымаць – гэта залежыць толькі ад іх. Мы ў гэта не можам быць уцягнутыя.

***— Як вы лічыце, ці будуць прэзідэнцкія выбары ў Беларусі дэмакратычнымі, свабоднымі і справядлівымі?***

— Пакуль я не прыеду ў Беларусь і не пазнаёмлюся з умовамі правядзення выбараў, я не змагу вам даць адказу на гэтае пытанне.

**Гутарыў Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# МЗС запрашае з фігай у кішэні

Учора міністэрства замежных справаў Беларусі абнародавала заяву, датычную прэзідэнцкіх выбараў. У заяве гаворыцца: «Кіруючыся імкненнем правесці выбары, што маюць адбыцца, дэмакратычна, сумленна і празрыста, урад Рэспублікі Беларусь запрасіў дзяржавы-чальцы АБСЕ накіраваць сваіх прадстаўнікоў для назірання за выбарамі. Запрашэнні аналагічнага характару былі накіраваныя таксама БДІПЧ АБСЕ, Еўрапарламенту, Парламенцкай Асамблеі АБСЕ і Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы».

У гэтай жа заяве МЗС абвінавачвае БДІПЧ АБСЕ ў «несвабоднасці ў прыняцці ўласных рашэнняў» і выказвае ад імя ўрада Беларусі «сумнеў у аб'ектыўнасці пазіцыі БДІПЧ АБСЕ падчас цяперашніх прэзідэнцкіх выбараў».

Як вядома, назіральная місія БДІПЧ мелася прыехаць яшчэ за 6 тыдняў да пачатку выбараў – яшчэ 1 жніўня. Але 30 ліпеня беларускае міністэрства замежных справаў у даволі жорсткай форме адмовіла назіральнікам у візах. Маўляў, пакуль няма за чым назіраць, бо на той час афіцыйная перадвыбарная кампанія яшчэ не пачыналася. Аднак гэты шасцітыднёвы тэрмін з'яўляецца часткай методыкі БДІПЧ па назіранні за выбарамі.

Дырэктар Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека АБСЕ Жэрар Студман заявіў тады, што «вельмі расчараваны» рашэннем беларускага МЗС не пушчаць міжнародных назіральнікаў: «*Кожны дзень затрымкі з прыбыццём нашай місіі абмяжоўвае нашыя магчымасці па арганізацыі прафесійнага назірання на тым узроўні, як гэта ажыццяўляецца ў іншых краінах АБСЕ. Прысутнасць БДІПЧ накіраваная на падвышэнне ўзроўню выбарчага працэсу; зацягванне нашага прыбыцця спрыяе толькі падрыву даверу да выбараў як унутры краіны, так і за мяжой*».

Як бачым, гэтая заява застаецца актуальнай і да сённяшняга дня.

Дарэчы, як адзначаюць прадстаўнікі АБСЕ, у рамках сваіх абавязацельстваў перад гэтай арганізацыяй усе краіны-чальцы АБСЕ, у тым ліку і Беларусь, абавязаныя запрашаць БДІПЧ для назірання за выбарамі, якія праводзяцца ў гэтых краінах. БДІПЧ з'яўляецца галоўнай структурай у Еўропе па назіранні за выбарамі.

Такім чынам, МЗС адначасова запрашае назіральнікаў і зацягвае выдачу ім уязных візаў, незабываючыся кінуць цень на гасцей.

Беларуская дыпламатыя мусіць добра ўсведамляць, што такія заявы могуць не толькі ўскладніць працу незалежных назіральнікаў, але і стаць нагодай для чарговага дыпламатычнага канфлікту з краінамі Захаду.

Таму трэба разумець, што гэтая заява – працяг мэтанакіраванай працы на непрызнанне вынікаў працы еўрапейскага назірання на прэзідэнцкіх выбарах у Беларусі. Гэта азначае, што калі паводле БДІПЧ выбары ў Беларусі будуць прызнаныя несвабоднымі і недэмакратычнымі, беларускія афіцыйныя крыніцы чарговы раз заявяць пра сваю ўпэўненасць у неаб'ектыўнасці БДІПЧ. І гэта азначае таксама, што беларускія ўлады ўжо адчуваюць небяспеку незалежнага назірання – відаць, ім ёсць што хаваць?

Тым часам, прэс-сакратар МЗС Беларусі Павел Латушка падчас брыфінгу ў МЗС учора заявіў, што візы назіральнікам БДІПЧ АБСЕ «будуць выдадзеныя своечасова».

**Міхась КАРПОВІЧ**

## Каддафи едет в Минск агитировать за Лукашенко

Накануне выборов президента Беларуси Александр Лукашенко пригласил в гости возможно самого одиозного и самого нелюбимого на Западе политика – лидера ливийской революции и негласного руководителя Социалистической Народной Ливийской Арабской Джамахирии Муамара бен Мухаммеда бен Хамида Каддафи.

По словам пресс-секретаря белорусского внешнеполитического ведомства Павла Латушко, визит Каддафи в Минск состоится уже в августе этого года. По его словам, этот визит является ответным, поскольку А.Лукашенко уже посещал Ливию в октябре прошлого года. Тогда же была достигнута договоренность о визите ливийского лидера в Беларусь.

Белорусские официальные лица пока не смогли дать ответ, каким видом транспорта ливийский лидер доберется до Минска. Известно, что он патологически не доверяет самолетам, и, как считается, сам способствовал крушению британского пассажирского самолета в 1989 году.

Вояж из Ливии в Восточную Европу на традиционном для Каддафи автомобильном транспорте вряд ли возможен. Не сообщают и детали условий размещения Каддафи в Беларуси. Не исключено, что он не изменит своим традициям и поселится в шатре на окраине Минска под присмотром нескольких сотен охранников, как он делает это в своей ливийской резиденции в Азизии.

**«Gazeta.ru»**

## Кангрэс дэмакратычных сілаў

18 жніўня ў Мінску ў Палацы культуры «Сукно» з 9 да 15 гадзінаў адбудзецца Кангрэс дэмакратычных сілаў. У кангрэсе возьмуць удзел адзіны кандыдат у прэзідэнты ад шырокай грамадзянскай кааліцыі Уладзімір Ганчарык і кандыдат у прэзідэнты Сямён Домаш, якія выступяць з дакладамі, прафсаюзы і прадстаўнікі партыяў, якія ўваходзяць у КРДС.

## Беларускія СМІ

Па звестках Дзяржаўнага камітэта па друку, на 1 жніўня ў Беларусі зарэгістравана 1.126 перыядычных выданняў. 945 з іх выкарыстоўваюць у сваёй дзейнасці рускую мову, 645 — беларускую. Сярод іх — 725 газет, 361 часопіс, 46 бюлетэняў, адзін каталог і тры інфармацыйныя агенцтвы.

## Лёс Ігналінскай АЭС

Літва чакае фінансавай падтрымкі ад краінаў Еўрасаюза ў справе закрыцця Ігналінскай АЭС і пераадоленні яго негатыўных сацыяльных наступстваў. Кіраўнікі Літвы кажуць, што сваімі сіламі яна з гэтым не справіцца. Дарэчы, закрыццё «ігналінкі», якая пакрывае 80% энергетычных патрэбаў Літвы, ёсць адной з умоваў уступлення краіны ў Еўрапейскі Саюз.

## Падлеткавае п'янства

Штогод з-за п'янства ў Беларусі затрымліваюцца 25-27 тысяч падлеткаў. Як лічыць намеснік начальніка ўпраўлення прафілактыкі міністэрства ўнутраных справаў Валянцін Білейчык, адзіны метад барацьбы з п'янствам сярод непаўнагадовых — прыцягненне работнікаў гандлю да адказнасці за парушэнні правілаў гандлю, а дарослых — за спойванне непаўнагадовых.

## Спажывецкія веды для школьнікаў

З новага навучальнага года ў 37 школах Беларусі ў якасці эксперымента будзе выкладацца факультатыўны курс «Асновы спажывецкіх ведаў», распрацаваны беларускім таварыствам абароны спажыўцоў і міністэрствам адукацыі і разлічаны на 3 гады.

## Лекі праз тэндэр

Цяпер усе закупкі медыцынскай тэхнікі і вырабаў медыцынскага прызначэння, лекаў і вырабаў медыцынскага прызначэння аптэчнага асартыменту, што ажыццяўляюцца за кошт сродкаў рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў, будуць праводзіцца на тэндэрнай аснове. Дзве незалежныя камісіі будуць рабіць экспертызу тэндэраў па сумах закупак, эквівалентных або пераўзыходзячых 25 і 50 тысяч еўра.

## НАДВОР'Е




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**
**1460**

 

ЭНЕРГІЯ

## Зноў спазняемся ў Еўропу

Польская фірма з Любліна «*Heat Engineering Technology Europe*» зрабіла ўрачыстае адкрыццё новай размеркавальнай станцыі 110/15 kV у Вульцы Дабрыньскай Бялападляскага павета. Гэта апошні энергетычны вузел на 15-кіламетровай высакавольтнай лініі, пабудаванай цягам трох апошніх гадоў для перадачы альтэрнатыўнай на Люблінічыне электраэнергіі з Бярозаўскай ДРЭС, дзе, як вядома, 4 з 6 энергаблокаў не працуюць з-за таго, што экспартная электраэнергія з Расіі таннейшая на Беларусі па сваім сабекошце.

Аднак польскі інвестар мае свае плюсавыя розлікі па супрацоўніцтве з палескай станцыяй і выдаткаваў на будаўніцтва ЛЭП 110 кВт 17 мільёнаў злотых. Фірма атрымала канцэсію на перасылку і размеркаванне экспартнай электраэнергіі і зараз чакае канчатковага вердыкту міністэрства эканомікі.

На жаль, чакаць давядзецца доўга. За тры гады з моманту падпісання дамоўленасцяў па супрацоўніцтве ў Белаазёрску, як гавораць, і пальцам не паварушылі па хаця б пярвічнай мадэрнізацыі 40-гадовай станцыі. І калі зараз эксперты Еўрапейскай Энергетычнай Арганізацыі правялі замеры асноўных характарыстык напругі беларускага вытворцы, то выявілі іхнюю неадпаведнасць сучасным еўрапейскім стандартам. Вядома, Польшча не будзе рызыкаваць энергетычнай бяспекай сваёй тэрыторыі і не дазволіць прыватнай кампаніі энергапрадукт дрэннай якасці.

**Мікола НЯЗЛОМНЫ**

## ЦВК перавысіў свае паўнамоцтвы

Кансультатыўны савет апазіцыйных палітычных партыяў (КСАПП) на сваім паседжанні 15 жніўня прыняў спецыяльную заяву «Аб забеспячэнні свабоднага доступу кандыдатаў у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь да электронных і друкаваных СМІ».

У гэтым дакуменце гаворыцца, што ў пастанове Цэнтрвыбаркама ад 25 ліпеня 2001 года устаноўлена, што тэле- і радыёперадачы з перадвыбарнымі выступленнямі кандыдатаў у прэзідэнты ідуць у запісе. Гэта з'яўляецца адвольнай трактоўкай палажэнняў Выбарчага кодэкса, які ўвогуле не агавораные ніякімі ўмовамі права кандыдатаў у прэзідэнты на бясплатнае выступленне па дзяржаўным тэлебачанні, а таксама па радыё. Зыходзячы з сэнсу выбарчага заканадаўства, кандыдат сам выбірае форму трансляцыі свайго выступлення – у запісе ці ў прамым эфіры.

Прыняўшы такую норму, гаворыцца ў заяве, Цэнтрвыбаркам фактычна змяніў дзеючае выбарчае заканадаўства, чым завысіў свае паўнамоцтвы і парушыў правы кандыдатаў у прэзідэнты. Кансультатыўны савет палітычных партыяў лічыць, што ўсім кандыдатам у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь павінна быць гарантаванае законнае права на выкарыстанне тэле- і радыёэфіру па сваім разуменні – ці ў запісе, ці ў прамым эфіры. Акрамя таго, на думку КСАПП, неабходна забяспечыць безумоўнае выкананне патрабаванняў канстытуцыйнага палажэння аб недапушчэнні цэнзуры выступленняў кандыдатаў у прэзідэнты, у тым ліку пад выглядам іх рэдагавання.

**Уладзімір ГЛОД**

АКЦЫІ

## «Рух добрай волі» пад наглядам спецслужбаў

16 жніўня ў гарадскім пасёлку Антопаль Драгічынскага раёна затрыманы Алесь Ляўчук, удзельнік «Руху добрай волі», які з 5 па 20 жніўня праходзіць у Брэсцкай вобласці.

У Антопалі ўдзельнікі руху раздавалі мясцовым жыхарам календары і запрашалі іх прыйсці на прэзідэнцкія выбары. Алесь Ляўчук зайшоў у мясцовы сельсавет і падарыў старшыні «Канстытуцыю Белабрысіі» – сатырычны твор групы брэстаўчан. Старшыня сельсавета выклікаў міліцыю, якая затрымала Ляўчука. Пасля высвятлення абставінаў яго адпусцілі.

Падарожжа «Рух добрай волі» прайшло ўжо палову шляху да Брэста. Яго ўдзельнікі наведалі больш за 30 вёсак вобласці, а таксама Столін, Пінск і Іванава. За гэты час было распаўсюджана некалькі тысяч асобнікаў газеты «Брестский курьер» са спецвыпускам «Свободная зона» і календары.

Падарожжа «Рух добрай волі» прыцягвае пільную ўвагу праваахоўных органаў. Падарожнікаў пастаянна суправаджаюць аўтамабілі з супрацоўнікамі КДБ. На прадпрыемстве «Брэстаблпошта» ўзнік скандал з-за таго, што 4 тысячы асобнікаў «Брестского курьера» былі накіраваныя ў Пінск для ўдзельнікаў «Руху добрай волі». 16 жніўня на сустрэчу з кіраўніцтвам упраўлення КДБ па Брэсцкай вобласці запрошаныя журналісты газеты «Брестский курьер».

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

## Маніторынг СМІ

З 19 жніўня па 9 верасня Еўрапейскі інстытут сродкаў масавай інфармацыі – некамерцыйная, няўрадавая даследчая арганізацыя – будзе ажыццяўляць місію маніторынгу СМІ падчас прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі.

Дзейнасць місіі фінансуецца Еўрапейскай камісіяй у рамках Ініцыятывы за дэмакратыю і правы чалавека. Пачынаючы з 1992 года Еўрапейскі інстытут сродкаў масавай інфармацыі ажыццявіў больш за 40 місіяў медыя-маніторынгу падчас парламенцкіх і прэзідэнцкіх выбараў у краінах Усходняй і Цэнтральнай Еўропы і былога СССР.

Мэта місіі – ацаніць, наколькі непрадузята і збалансавана СМІ асвятляюць палітычныя аспекты перадвыбарнай кампаніі, а таксама назіранне за тым, як улады і кандыдаты выконваюць прызнаныя дэмакратычныя нормы ў галіне СМІ.

Падчас маніторынгу будуць задзейнічаны колькасны і якасны метады аналізу. Першы будзе выкарыстоўвацца для вымярэння колькасці часу і месца, прысвечанага кандыдатам на чатырох тэлевізійных каналах (БТ, ОРТ, РТР, НТВ), дзвюх радыёстанцыях (Першы нацыянальны канал беларускага радыё і Радыё Рацыя), 9 газетах («Советская Белоруссия», «Народная газета», «Рэспубліка», «Белорусская газета», «Белорусская деловая газета», Наша СВАБОДА, «Народная воля», «Беларускі час», «Рабочий»). Асобна маніторынг СМІ будзе праводзіцца ў рэгіянальных сродках масавай інфармацыі.

**Юрый ПАЦЁМКІН**

## «Бульбяная» хвароба ад баязлівага крэдыту

Усю выпечку хлеба гатунку «Ракаўскі» Брэсцкага хлебазавода вымушаная была зняць у жніўні з продажу ў раздробавым гандлі санітарная служба горада. Надзённы прадукт аказаўся заражаным так званай бульбяной хваробай, якая выяўляецца праз пасінелыя плямы. З гэтай прычыны на ВА «Брэстхлебпрам» вернутая з крамаў і пшанічная мука ў немалой колькасці.

Здавалася б, дзіўна, што ў першыя быццам бы апераджальных нарыхтовак збожжа новага ўраджаю батоны і булкі ў рэгіёнах пякуць са «старой» мукі не лепшай якасці. Аднак, як высвятляецца, у Беларусі да 01.09.2001 г. дзейнічае пастанова Саўміна ад 27.02.2001 г. «Аб упарадкаванні абарачэння мукі на тэрыторыі РБ». Тады ў лютым спатрэбілася перапыніць самастойны завоз пшанічнай мукі з Расіі і Украіны камерцыйнымі структурамі, бо не мела попыту мука з нахапанага пад страхам голаду чэшскага крэдыту зерня мінулых гадоў. Але яшчэ і зараз на складах ляжыць 15 тысяч тонаў чэшскай пшаніцы. Так што пакуль не з'ямо з яе муку, то будзем жыць пад страхам «бульбяной» хваробы.

**Галіна БАРАВАЯ**

НАВУКА

## КДБ цікавіцца цырконіевымі трубамі

Упраўленне КДБ па Гомельскай вобласці звярнулася ў Інстытут фізічных праблемаў Беларускага дзяржаўнага універсітэта з просьбай дапамагчы высветліць, якім чынам у Беларусі могуць быць выкарыстаныя цырконіевыя трубы.

Груз цырконіевых трубаў масай 1.870 кілаграмаў гомельскія чэкісты затрымалі пры спробе іх рэалізацыі. За трубы зламыснікі меркавалі атрымаць звыш 100 тысяч долараў. Як мяркуецца, яны былі выробленыя расійскім ААТ «Чапецкі механічны завод» (Удмурцыя).

Цырконіевыя трубы выкарыстоўваюцца выключна ў ядзернай энергетыцы, дзе яны служаць для вырабу абалонак цеплавыдзяляючых элементаў ядзерных рэактараў. Былыя гаспадары грузу патлумачылі чэкістам, што проста знайшлі трубы. Таму крымінальная справа не ўзбуджалася. Як паведамілі ва УКДБ, канфіскаваныя трубы не выкарыстоўваліся па прызначэнні, таму яны не небяспечныя ў радыяцыйным плане. Зараз УКДБ з дапамогай навукі і спрабуе знайсці спосаб іх прымянення ў Беларусі.

**Ірына ШАНЦАВА**

ЛЮСТРАФАКТ




ПАВЕТРА

## Беларусь навучае замежных лётчыкаў

«Мы не на сталай аснове, але, калі нам прадастаўціца такая магчымасць, канечне, бярэм удзел у падрыхтоўцы лётчыкаў, іншых дзяржаваў», — заявіў на прэс-канферэнцыі 14 жніўня камандуючы Ваенна-паветранымі сіламі Беларусі генерал-маёр Сяргей Булыгін. – За гэткую магчымасць змагаюцца ўсе дзяржавы, якія маюць падрыхтаваныя кадры і якія маюць сваю авіяцыю».

Як правіла, паводле словаў С.Булыгіна, калі размова ідзе аб першапачатковай падрыхтоўцы пілотаў, то гэта адбываецца на тэрыторыі Беларусі. Пасля, калі патрэбна, магчымыя камандзіроўкі спецыялістаў за мяжу ў якасці інструктараў тэрмінам на 1-2 месяцы. Акрамя навучання сваіх будучых замежных калегаў, беларускія ваенныя лётчыкі адпраўляюцца за мяжу і ў іншых мэтах. Так, паводле С.Булыгіна, арандаваныя ў нашай краіне самалёты накіроўваюцца заказчыку паветраным альбо водным шляхам у разабраным выглядзе. Пасля зборкі іх неабходна аблятаць, што і робяць беларускія спецыялісты.

Пілотаў якіх краінаў навучаюць лётчыкі ВПС рэспублікі і ў якія краіны ездзяць упершыню пасля рамонту ўздымаць у паветра машыны, камандуючы гаварыць адмовіўся, спасылаўшыся на «камерцыйную тайну дзяржавы». Праўда, зазначыў, што ў «гарачых кропках» беларусы не бываюць.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**



## Дзеці-злачынцы

Пік злачынстваў сярод непаўнагадовых, які назіраўся ў 1995 годзе, пакрыху спаў, але і на сённяшні дзень амаль 10% злачынстваў – гэта справа рук моладзі. Па тым факце, што сярод злачынных матываў пераважае менавіта карыслівасць, можна зрабіць выснову аб тым сацыяльна-эканамічным стане, у які апынулася сучасная моладзь.

На змену рабункам і згвалтаванням, колькасць якіх скарацілася сёлета на 18%, прыйшлі забойствы, хуліганства і разбоі. Супраць леташніх 58 забойстваў за 7 месяцаў 2001 года зафіксавана ўжо 40 такіх выпадкаў. 50% усіх злачынстваў – крадзяжы. Натуральна, не ад вялікіх стыпендыяў за падробку і збыт фальшывых грошай летась былі затрыманыя 53 студэнты і навучэнцы, сёлета – 15.

Толькі 50% непаўнагадовых злачынцаў – гэта дзеці з няўдалых сем'яў, што абвяргае ўсе ўсталяваныя стэрэатыпы. Камусьці не хапае ежы, а некаму – увагі бацькоў. Псіхічныя адхіленні назіраюцца ў паловы з тых дзяцей, што маюць праблемы ў сям'і, а гэта больш за 400 тысяч. 60-70 дзяцей штогод сканчаюць жыццё самагубствам, а спробаў пайсці з жыцця разоў у 10 больш.

**Алена ЛАБАНАВА**

ВАНДРОЎКА

## Слядамі вядомага этнографа

17 жніўня завяршаецца гісторыка-спартыўная экспедыцыя — велапрабег «Праз паўтара стагоддзя», прысвечаная 150-й гадавіне вандроўкі беларускага этнографа, гісторыка і мовазнаўцы Паўла Шпілеўскага па маршруце Варшава-Брэст-Нясвіж-Мінск-Барысаў.

Як паведамілі 15 жніўня на прэс-канферэнцыі ў Мінску адзін з арганізатараў велатура загадчык кафедры фізікі Брэсцкага дзяржаўнага тэхнічнага універсітэта, прафесар Анатоль Гладышчук, мэта экспедыцыі наведаць тыя месцы, па якіх 150 гадоў таму праходзіў П.Шпілеўскі. А спосаб перамяшчэння — веласіпед, — паводле яго словаў, быў выбраны не выпадкова, паколькі ўспрыманне навакольнага свету з сядзення веласіпеда зусім іншае, чым з акна аўтамабіля.

Маршрут удзельнікаў прабегу праходзіць па гарадах і вёсках Беларусі, і ў суме веласіпедысты праедуць каля тысячы кіламетраў. Стартаваўшы 9 жніўня ў Брэсце, яны пабывалі ўжо ў Кобрыне, Бярозе, Косаве, Івацэвічах, Мілавідах, Клецку, Нясвіжы, Міры і Мінску, дзе азнаёміліся з мясцовымі славутасцямі. Далей іх шлях пройдзе праз Барысаў, Чэрвень, а завершыцца прабег 17 жніўня ў Дудутках (Мінская вобласць).

**Вольга АСІПЕНКА**

ТРАНСПАРТ

## Адказнасць за ДТЗ даражэе

Ліміт адказнасці ўладальнікаў транспартных сродкаў за страты, нанесеныя ў выніку ўчынення дарожна-транспартнага здарэння, павышаны ў Беларусі з 3 да 5 тысяч еўра. Пра гэта БелаПАН паведаміў намеснік генеральнага дырэктара Беларускага бюро па транспартным страхаванні Антон Рагачоўскі.

Паводле яго словаў, да павышэння ліміту адказнасці да 5 тысяч еўра спецыялісты прыйшлі пасля аналізу аб'ёмаў атрымліваемых страхавых унёскаў ад тарыфаў, устаноўленых з ліпеня мінулага года. Павелічэнне ліміту адказнасці абумоўленае таксама тым, што яго памер пакуль далёкі ад дзеючых за мяжой стандартаў. А з улікам таго, што Беларусь імкнецца ўступіць у еўрапейскую сістэму аўтастрахавання «Зялёная карта», ліміт адказнасці за страты ў выніку ДТЗ будзе паступова павышацца, зазначыў Антон Рагачоўскі. Пры гэтым намеснік генеральнага дырэктара Беларускага бюро па транспартным страхаванні падкрэсліў, што памеры страхавых тарыфаў у сувязі з цяперашнім павышэннем ліміту адказнасці павялічвацца не будуць.

**Аляксей АРЭШКА**

## Ці скасуюць ліцэнзіі на гуртавы гандаль?

Беларуская навукова-прамысловая асацыяцыя (БНПА) звярнулася ў Адміністрацыю прэзідэнта і Міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцыяў РБ адмяніць ліцэнзаванне оптавага гандлю, якое было ўведзенае загадам кіраўніка дзяржавы № 117 ад 7 сакавіка 2000 года «Аб некаторых захадах па ўпарадкаванні пасрэднiцкай дзейнасці пры продажу тавараў».

Эксперты БНПА сцвярджаюць, што ўказ стаў тормазам для збыту прадукцыі беларускіх прадпрыемстваў: ён патрабуе атрымання ліцэнзіяў на пасрэдніцкую дзейнасць з такім таварам. Разам з тым імпартныя тавары можна ўвозіць у краіну без усялякіх ліцэнзіяў. Такім чынам, зазначаюць у асацыяцыі, замежныя вытворцы маюць магчымасць укладаць грошы ў прасоўванне сваіх тавараў, а беларускія пазбаўленыя такой магчымасці і вымушаныя працаваць на ўнутраным рынку самастойна без дапамогі беларускіх гандлюючых арганізацыяў. І гэта ва ўмовах, калі перад вытворцамі стаіць задача прадаць як мага больш тавару, прычым за «жывыя» грошы.

У БНПА лічаць таксама, што прэзідэнцкі ўказ стрымлівае развіццё малога прадпрымальніцтва, паколькі пасрэдніцкай дзейнасцю ў той ці іншай форме займаюцца каля 70% суб'ектаў гаспадарання.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

ЗДАРОЎЕ

## Асцярожней з кавунамі

Як паведаміў намеснік міністра аховы здароўя Беларусі, галоўны дзяржаўны санітарны ўрач Валерый Філонаў, сёлета ў Беларусі было закрыта 45 цэхаў і ўчасткаў на тых малочных заводах, якія не адказвалі санітарным патрабаванням. Таксама вядзецца беспераборйны кантроль якасці прадуктаў харчавання. З пачатку года абследавана больш за 52 тысячы пробаў харчовых прадуктаў, 740 з якіх не адпавядалі санітарным нормам. Было таксама ўзята каля 33 тысяч пробаў водаправоднай вады, з якіх 4% не адпавядалі санітарным нормам па бактэрыялагічных паказчыках. За такога роду парушэнні санітарных нормаў да адміністрацыйнай адказнасці прыцягваліся больш за 14 тысяч чалавек. Цяпер, паводле словаў В.Філонава, застаецца актуальнай праблема кантролю рынку, дзе, нягледзячы на праведзеныя мерапрыемствы, да гэтага часу маюць месца парушэнні правілаў захавання і рэалізацыі харчовых прадуктаў.

Галоўны санітарны ўрач краіны параіў не набываць садавіну і гародніну, а асабліва кавуны, якія прадаюцца на аўтатрасах, паколькі на гэтую прадукцыю няма адпавядаючых дакументаў, якія гарантуюць якасць.

**Вольга АСІПЕНКА**

# «Незалежнае назіранне» для вас

*Грамадзянская ініцыятыва «Незалежнае назіранне» ўзяла за мэту стварыць моцную, дзеяздольную сетку незалежнага назірання за выбарамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, якая паінфармуе беларускую грамадскасць і міжнародную супольнасць пра сапраўдныя вынікі галасавання.*

Што думаюць людзі аб дзейнасці гэтай ініцыятывы? З некалькімі пытаннямі наш карэспандэнт звярнуўся да паважаных у грамадстве людзей, меркаванне якіх можа быць цікавым для чытачоў.

— Як Вы лічыце, ці магчымае пры сённяшняй сітуацыі ў краіне правядзенне свабодных і дэмакратычных выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь?

— Ці можа паўплываць прысутнасць незалежных назіральнікаў на справядлівасць вынікаў галасавання?

— Ці выклікае ў Вас давер «сістэма паралельнага падліку галасоў», якую будзе праводзіць «Незалежнае назіранне»?

**Уладзімер АРЛОЎ, гісторык:**



— Верагоднасць таго, што ўлады пойдуць на свабодныя, дэмакратычныя выбары – мінімальная. Для ўсіх, у тым ліку і для чалавека, які зараз займае пасаду прэзідэнта, абсалютна зразумела, што на свабодных, дэмакратычных выбарах ён не перамагае. Апошнімі днямі мы сталіся сведкамі заяваў, якія зрабіў спадар Лукашэнка, пра тое, што ён з уладай развітвацца не збіраецца. Гучалі пагрозы, спасылкі на сілу, што ён захавае сваю ўладу з дапамогай Унутраных войскаў. На жаль, у такіх умовах цяжка чакаць правядзення дэмакратычных выбараў.

Таму, безумоўна, верагоднасць прысутнасці незалежных назіральнікаў выклікае нервознасць у прадстаўнікоў улады. Тыя 14.000 назіральнікаў, пра якіх ідзе гаворка, былі абвешчаныя «змоўшчыкамі». Рэжым баіцца, што схаваць рэальныя вынікі выбараў будзе больш складана ў прысутнасці незалежных назіральнікаў. Але цынізм рэжыму сягнуў такога ўзроўню, калі фальсіфікацыі могуць быць зробленыя на самым высокім узроўні.

Як пісьменнік з дыпломам гісторыка, я даўно заўважыў такую заканамернасць – у гісторыі Беларусі тыя перыяды, якія навукоўцы потым называюць «залатым векам», маюць уласцівасць паўтарацца праз 500 гадоў. Першы «залаты век» нашай гісторыі быў у часы князя Усяслава Чарадзея ў XI стагоддзі, затым у XVI стагоддзі – перыяд Вялікага Княства Літоўскага, калі росквіту дасягнула беларуская культура, дыпламатыя. Прайшло яшчэ 500 гадоў, надышло XXI стагоддзе, і мне хочацца верыць, што гэтая тэндэнцыя будзе працягнутая. Што пасля выбараў мы адчуем надыход новага «залатога веку» нашай гісторыі, цяпер ужо незалежнай Рэспублікі Беларусь. Але гэта будзе залежаць ад таго, які лёс выберуць сабе беларусы на прэзідэнцкіх выбарах – лёс еўрапейскай краіны XXI стагоддзя ці лёс краіны, якая будзе адкінутая яшчэ глыбей назад у мінулае.

«Сістэма паралельнага падліку галасоў» прайшла апрабацыю шмат у якіх краінах, таму, безумоўна, я буду давяраць вынікам, якія абвесціць «Незалежнае назіранне».

**МІХНЮК Дзмітрый Міхайлавіч, галоўны акушэр-гінеколаг міністэрства аховы здароўя з 1987 па 2000 гг.:**



— Асабіста я вельмі хацеў бы, каб у Рэспубліцы Беларусь адбыліся свабодныя і дэмакратычныя выбары прэзідэнта. На жаль, я бачу, што дзеючая ўлада робіць усё, каб гэтыя выбары былі несвабоднымі і недэмакратычнымі. Наша задача як мага болей супрацьстаяць гэтаму. Як мага больш даць людзям інфармацыі. Самае галоўнае, каб яны не ішлі на датэрміновае галасаванне, а ішлі на выбарчыя ўчасткі 9 верасня, у дзень выбараў. Тады будзе больш магчымасцяў пазбегнуць фальсіфікацыяў.

Усе апошнія падзеі паказваюць, што рэжым баіцца прысутнасці незалежных назіральнікаў на выбарчых участках. Улады баяцца рэгістрацыі парушэнняў, якія могуць быць выяўленыя падчас галасавання.

Я цалкам давяраю «Сістэме паралельнага падліку галасоў», якую будзе праводзіць «Незалежнае назіранне». Гэтай сістэмай карысталіся падчас правядзення выбараў у шматлікіх краінах свету. Гэта натуральна, што людзі хочуць як мага раней атрымаць папярэднія звесткі аб выніках галасавання.

**СЯДЗЯКА Аляксандар Генадзьевіч, дырэктар сярэдняй школы №2 г.Мінска:**

— Думаю, што сёння пра свабодныя і дэмакратычныя выбары ў нашай краіне гаварыць рана. Людзі не маюць доступу да аб'ектыўнай інфармацыі, розных пунктаў гледжання на працэсы, што адбываюцца ў краіне. Большасць людзей атрымлівае інфармацыю толькі з дзяржаўнай прэсы, тэлебачання і радыё, якія працуюць на карысць аднаго чалавека. Такім чынам, не выконваецца адно з самых галоўных грамадзянскіх правоў – права чалавека на аб'ектыўную інфармацыю. Мы не ведаем, што адбываецца на ўладзе, што адбылося са зніклымі людзьмі, як працуе апазіцыя, якія мэты ставяць апазіцыйныя партыі, чаго яны намагаюцца дасягнуць у краіне, не ведаем аргументаў, якія яны прыводзяць, крытыкуючы ўладу. Без інфармацыі не можа быць свабоднага выбару прэзідэнта краіны.

Сёння сярод людзей пануе страх – страх выйсці на вуліцу, каб выказаць сваю думку, страх згубіць месца працы, калі ты не згодны з палітыкай рэжыму. У такой сітуацыі цяжка казаць пра свабодныя і дэмакратычныя выбары.

Прысутнасць незалежных назіральнікаў звяжа рукі выбарчым камісіям у пытанні фальсіфікацыі і падтасоўкі галасоў. Хаця, я думаю, што і прысутнасць незалежных назіральнікаў дазваляе рабіць нейкія маніпуляцыі, бо існуе датэрміновае галасаванне.

Грамадская думка зараз раскалота напалам, і загадзя цяжка прадугледзець вынікі галасавання. Існуе магчымасць, што кандыдат ад улады можа прайграць, а новая ўлада будзе прыцягваць да адказнасці тых, хто прымаў удзел у фальсіфікацыі выбараў. Гэта таксама павінна стрымаць членаў выбарчых камісіяў ад удзелу ў падтасоўцы вынікаў галасавання. Таму я лічу, што інстытут незалежных назіральнікаў проста неабходны на маючых адбыцца выбарах.

Спадзяюся, што на большасці ўчасткаў, якія ўвайшлі ў выбарку паралельнага падліку галасоў, незалежныя назіральнікі змогуць атрымаць копіі пратаколаў. Калі будзе зробленая зверка афіцыйных вынікаў галасавання па гэтых участках і зробленыя падлік з копіяў пратаколаў незалежных назіральнікаў, і там будзе вялікая разбежка, то больш давер у мяне будзе выклікаць падлік «Незалежнага назірання», бо на выбарчых участках, дзе будуць прысутнічаць незалежныя назіральнікі, зрабіць вялікія фальсіфікацыі будзе цяжка. А вось спакуса сфальсіфікаваць вынікі на ўзроўні тэрытарыяльных камісіяў, застаецца. І каб не дапусціць гэтага, падобная зверка будзе вельмі карыснай. Лічу, што звесткі ад незалежных назіральнікаў будуць мець больш давер, чым афіцыйныя дадзеныя.

**Валеры МАЗЫНСКІ, галоўны рэжысёр тэатра «Вольная сцэна»:**



— Старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі спадарыня Ярмошына заявіла, што нідзе і ніколі не бывае свабодных і дэмакратычных выбараў, а я ёй веру.

Упэўнены, што прысутнасць незалежных назіральнікаў на выбарчых участках можа паўплываць на справядлівасць вынікаў галасавання. Несправядлівыя выбары робяцца несправядліва, падманам – «пад сталом». А калі ёсць назіральнікі, верагодна, члены выбарчых камісіяў будуць баяцца рабіць фальсіфікацыі. Абсалютна ўпэўнены, што спробы сфальсіфікаваць выбары будуць.

«Сістэма паралельнага падліку галасоў» выклікае ў мяне давер. Спадзяюся, што вынікі, якія абвесціць «Незалежнае назіранне», будуць адлюстроўваць рэальную карціну галасавання. Але ўсё на гэтым свеце адносна. Натуральна, што ўлады баяцца, бо хочуць схаваць сапраўдныя вынікі галасавання.

**Людміла МАЙСЕНЯ, дацэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі:**

— Хочацца спадзявацца, што свабодныя і дэмакратычныя выбары ў нашай краіне магчымыя, але, на жаль, практыка паказвае, што гэты працэс не ідзе так, як трэба. На тэлебачанні, у дзяржаўнай прэсе ідзе перакос у афіцыйны бок. Незалежныя кандыдаты не маюць магчымасці ўзяць выразны і рэзкі старт. Яны не маюць доступу да дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі. Толькі роля незалежнай прэсы тут станоўчая.

Людзі, якія збіраюцца прыцаваць незалежнымі назіральнікамі, павінны вельмі добра разумець нашу спецыфіку. Адсачыць усё не ўдасца. Прысутнасць незалежных назіральнікаў, безумоўна, паўплывае на справядлівасць вынікаў галасавання, але толькі на 70-80%.

Безумоўна, «Сістэме паралельнага падліку» я давяраю. Толькі ці ўдасца гэта ажыццявіць тэхнічна? Афіцыйная інфармацыя працуе ў нас толькі «ў адны вароты». Таму я не магу ёй давяраць.

**Алесь ГУРКОЎ, дырэктар камерцыйнай фірмы:**

— Пры сённяшнім рэжыме правядзенне свабодных і дэмакратычных выбараў прэзідэнта Беларусі немагчымае. Прадстаўнікі ўлады, а менавіта з іх складаецца большасць выбарчых камісіяў, будуць рабіць усё, каб захаваць свае пасады. Трэба быць падрыхтаванымі да шматлікіх фальсіфікацыяў і падтасовак. Але я спадзяюся, што ў складзе выбарчых камісіяў шмат сумленных, адказных і разумных людзей. Мне б хацелася ў гэта верыць.

Шмат хто з маіх знаёмых далучыліся да «Незалежнага назірання». Дарма ўлады палохаюцца іх. Гэта ніякія не «баевікі» і не «шпіёны». Проста людзі хочуць, каб у Беларусі нарэшце адбыліся справядлівыя і дэмакратычныя выбары.

Я буду вельмі рады, калі звесткі, якія агучыць «Незалежнае назіранне», і афіцыйныя дадзеныя супадуць. Гэта будзе азначаць, што выбарчыя камісіі ўсіх узроўняў паставіліся сумленна да сваёй працы і выдалі сапраўдныя вынікі галасавання. А калі не, то, безумоўна, я больш паверу дадзеным, атрыманым дзякуючы «Сістэме паралельнага падліку галасоў».

Гутарыла
Валянціна ЛЕЦКА

**ЗУБР**

## На родине Лукашенко возбуждено уголовное дело за его оскорбление

Уголовное дело по ст. 368 ч. 1 было возбуждено против 5 активистов движения сопротивления ЗУБР в Шклове.

14 августа примерно в 6 часов вечера, надев «усатые» маски, они заходили в магазины Шклова, проводили предвыборную агитацию среди покупателей: сулили им зарплату USD 100, обещали снизить цены и посадить всех жуликов, предпринимателей, а также всех тех, кто не будет за них голосовать.

Приблизительно в 18.30 5 активистов движения сопротивления ЗУБР, принимавших участие в акции, были задержаны на выходе одного из магазинов. Их доставили в Шкловский ГОВД. Двое несовершеннолетних зубров были отпущены только в первом часу ночи. На совершеннолетних были составлены протоколы по ст. 156 КоАП (мелкое хулиганство). Они провели всю ночь в камере. В 13 часов 15 августа их должны были повезти в суд, однако вместо этого объявили, что в отношении их возбуждено уголовное дело за «публичное оскорбление президента Республики Беларусь». Такую реакцию безумного режима активисты движения сопротивления ЗУБР считают агонией, которая свидетельствует о его скором конце.

## Вилейский ЗУБР работает в две смены

Вилейские ЗУБРы вновь напомнили вилейчанам о пропавших людях и о предстоящих выборах в ночь с 13 на 14 августа. По городу появились надписи «Где Гончар, Красовский, Завадский, Захаранка? Кто следующий?», а так же «Время выбирать» и «Время убирать». Уже с самого утра городские власти начали зачистку надписей в городе. Не спали вилейские зубры и днем. После окончания смены на заводах «Зенит» и «Стройдетали» рабочим, выходящим из проходных, они вручали спецвыпуск газеты «Народная воля».

## Зубры раздают газеты на концерте

12 августа на площади Гомеля состоялся бесплатный концерт звезд белорусской эстрады, который собрал огромное количество молодых людей. Несколько десятков активистов движения ЗУБР раздавали там спецвыпуск газеты НАША СВАБОДА, который пользовался огромным спросом. Люди буквально вырывали газету из рук и хвалили зубровцев за правильное дело.

## ЗУБР убирает надоевшие физиономии с улиц Могилева

Сотни картинок с изображением Лукашенко неизвестно откуда появились на улицах Могилева 15 августа утром. Они были разбросаны по тротуарам в центре города. Это безобразие заметили люди в майках с надписью «Время убирать» и принялись собирать эти бумажки. Им помогали обычные прохожие. Кроме того к уборке присоединились активисты местных ячеек Молодого Фронта и ОГП. Совместными усилиями молодые люди собрали мусор в считанные минуты. Затем более 100 человек выстроились в колонну и прошли по центральным улицам города, скандируя лозунги «Жыве Беларусь» и «Время убирать». Колонна дошла до рыночной площади и там спокойно разошлась.

**ВРЕМЯ ВЫБИРАТЬ! 9 сентября**

*Смена нынешнего режима на цивилизованный высвободит творческие силы народа, сделает Беларусь процветающей европейской страной.*

*Станислав БОГДАНКЕВИЧ, политик, экономист*

# В кольце неравнодушных – резиденция Лукашенко

**22 августа в 17.00 ты можешь лежать на диване – ведь это не твоего мужа похитил «эскадрон смерти».**
**22 августа в 17.00 ты можешь уехать на дачу – ведь это не твой отец скоропостижно умер при загадочных обстоятельствах.**
**22 августа в 17.00 ты можешь пить пиво с друзьями – ведь это не твоего сына бросили за решётку потому, что он не хотел стоять на коленях.**

**Но уверены ли вы, что этого не произойдёт с ними завтра или через год?**

Кольцо неравнодушных людей вокруг резиденции Лукашенко – это мероприятие для тех, кто хочет жить в нормальной, цивилизованной стране, где людей за их взгляды не бросают в тюрьму, где претендентов на президентский пост не похищают и не убивают.

Мероприятие не требует специального разрешения властей. Приди и встань рядом с Людмилой Карпенко, Татьяной Климовой, Ольгой Григорьевной Завадской, Светланой Завадской, Ириной Красовской ...

## График проведения «Цепи неравнодушных городов» в рамках кампании «Хотим знать правду!»:

15 августа, Брест, ул.Советская, 18.00-19.00.
15 августа, Островец, Центральный рынок, 12.00 -13.00.
16 августа, Гродно, Советская пл., 17.00.
17 августа, Гомель, универмаг «Гомель» и ул.Советская, с 18.00.
18 августа, Новолукомль, 9.00-10.00, рынок.
22 августа, Минск, 17.00-18.00, вокруг резиденции Лукашенко, К.Маркса,38.
22 августа, Витебск, 19.30-20.00, Привокзальная площадь.
22 августа, Ошмяны, 17.00-18.00, площадь Дома Советов.
29 августа, Витебск, 19.30-20.00, Привокзальная площадь.

# ХОТИМ ЗНАТЬ ПРАВДУ


**Анатолий Майсеня:** несчастный случай или спланированная катастрофа?


**Геннадий Карпенко:** скоропостижная смерть или политическое убийство?


**Юрий Захаренко:** исчезновение или политический терроризм?


**Виктор Гончар:** исчезновение или устранение конкурента?


**Анатолий Красовский:** исчезновение или организованное похищение?


**Дмитрий Завадский:** исчезновение или организованное похищение?


**Андрей Климов:** экономическое правонарушение или политическая расправа?


**Валерий Щукин:** уголовное преступление или политическая расправа?























# КОЛЬЦО НЕРАВНОДУШНЫХ ЛЮДЕЙ ВОКРУГ РЕЗИДЕНЦИИ ЛУКАШЕНКО

**Среда, 22 августа, 17.00 - 18.00**

**ВСТАНЬ РЯДОМ!**

## Міліцыянта не «закладзеш»

Тэлефон з аўтаадказчыкам у Брэсце 20-08-16, аб'яўлены як «тэлефон даверу» службы ўласнай бяспекі УУС аблвыканкама, не будзе працаваць у суботу і нядзелю. Магчыма, што ў супрацоўнікаў падраздзялення патаемнага нагляду за асабовым складам міліцыі няма ахвоты адказваць на званкі ў непрацоўны час, альбо існуе перасцярога не справіцца з валам скаргаў на аўтаадказчык. Як вядома, менавіта ў выхадныя найбольш часта грамадзяне кантактуюць з міліцыянтамі і ім ёсць пра што паведаміць па гарачых слядах вулічных зносінаў.

Між тым у звароце да насельніцтва аб выкарыстанні новага канала міліцэйскай сувязі зроблены акцэнт на магчымасць ананімных зваротаў па фактах неправамерных дзеянняў людзей у пагонах. Канфедэнцыйнасць абяцаная і ў выпадках, калі інфарматар асабіста знаёмы з тым міліцыянтам, якога ён вырашыў «закласці».

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

## Разгон «неабыякавых людзей»

У Магілёве 14 жніўня міліцыя разагнала ўдзельнікаў акцыі «Ланцужок неабыякавых людзей». Згодна з паведамленнем прэс-службы Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП), каля 40 удзельнікаў з партрэтамі вядомых палітыкаў, зніклых без вестак у Беларусі, размясціліся ў 18.00 у цэнтры горада. Да іх далучыліся яшчэ каля 150 чалавек.

Праз 10 хвілінаў да людзей падышлі адзін з кіраўнікоў гарадской міліцыі Алёнушкін і намеснік начальніка Цэнтральнага РАУС падпалкоўнік міліцыі Ермакоў. Яны патрабавалі, каб усе разышліся. Пасля адмовы ўдзельнікаў акцыі пачаліся затрыманні.

Усяго было затрымана каля 20 чалавек. Шасцёра пратрымалі ва ўчастку больш як тры гадзіны. На некаторых былі складзеныя пратаколы, нібыта яны кідалі смецце і акуркі ў грамадскім месцы, арганізавалі пікет. Аднаго непаўнагадовага ўдзельніка акцыі збілі АМАПаўцы. Афіцыйна засведчыць цялесныя пашкоджанні яму не дазволілі.

У той жа дзень акцыя «Ланцужок неабыякавых людзей» адбылася ў горадзе Оршы Віцебскай вобласці. Акцыя прайшла недалёка ад будынка гарвыканкама. Аднак улады адрэагавалі спакойна і ніякіх затрыманняў не было. Усяго ў «ланцужку неабыякавых» было каля 40 чалавек.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

## Допыты сябраў МФ

У многіх гарадах Беларусі працягваюцца выклікі ў КДБ і допыты актывістаў Маладога Фронту.

Апошнім часам на допыты ва ўпраўленні КДБ былі выкліканыя кіраўнікі мясцовых маладафронтаўскіх структураў, у цэлым каля 30 чалавек.

Выкарыстоўваючы ў якасці прычыны справу аб быццам бы «выбуху на тэрыторыі Расійскага пасольства», маладафронтаўцаў распытваюць пра дзейнасць арганізацыі і планах апазіцыі перад выбарамі. «Проста смешна, калі высмактаная з пальца справа аб «міжнародным тэрарызме» – відавочная правакацыя, становіцца тэмай для допытаў моладзі па ўсёй краіне!», – гаворыцца ў заяве Маладога Фронту.

Разам з тым адзначаецца, што масіраваная атака на маладзёжную арганізацыю разгорнутая і на дзяржаўным тэлебачанні. У такіх праграмах, як «Тайныя спружыны палітыкі», «Вугал атакі», «Рэзананс», беспадстаўна мусіруецца тэма прыналежнасці актывістаў Маладога Фронту да «выбуху ў Расійскім пасольстве». У перадачы «Вугал атакі» называлася нават прозвішча магчымага выканаўцы – семнаццацігадовага Івана Тамашэвіча.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

## Загад на канфіскацыю

Як паведаміў 14 жніўня БелаПАН старшыня арганізацыі БНФ «Адраджэньне» Ліды Станіслаў Суднік, гарадская міліцыя атрымала загад канфіскаваць у бліжэйшыя дні камп'ютэры і аргтэхніку ў шэрагу мясцовых грамадскіх арганізацыяў.

Па звестках С.Судніка, загад паступіў з Упраўлення унутраных справаў Гродзенскага аблвыканкама. У загадзе называюцца прозвішчы шасці актывістаў грамадскіх арганізацыяў Ліды, якія ў першую чаргу павінны быць дапытаныя і праверапыя міліцыяй. С.Суднік адзначыў, што ён і ягоныя калегі ніякім чынам не парушылі існуючага заканадаўства, «камп'ютэрная тэхніка прыватная, набытая за ўласныя грошы». С.Суднік звязвае ўзгаданы загад на канфіскацыю тэхнікі выключна з маючымі адбыцца выбарамі прэзідэнта: «Усе дзеянні уладаў скіраваныя толькі на тое, каб не дапусціць распаўсюджвання агітацыйных матэрыялаў за кандыдатаў у прэзідэнты, і з мэтай паралізаваць дзейнасць незалежных назіральнікаў».

**Павел МАЖЭЙКА**

# Урад зноў нарадзіў мышанё

## Гісторыка-культурным каштоўнасцям паабяцанае чарговае «аднаўленне»

Спецыялізаваныя ўстановы для рэстаўрацыі помнікаў гісторыі і культуры створаныя ў Беларусі гадоў ужо трыццаць таму. Былі прынятыя савецкі і постсавецкі Законы аб ахове спадчыны, выходзіў часопіс, штодзень адзначаліся на працоўных месцах і атрымоўвалі зарплату адпаведныя чыноўніцкія службы. У выніку іхнай напружанай дзейнасці за апошнюю трэціну мінулага стагоддзя спіс страчаных і скалечаных помнікаў культуры і гісторыі істотна павялічыўся, а лаканічны спіс здабыткаў памесціцца на далоні. Што, прыкладам, засталося ад уражлівых планаў стварыць турыстычнае «залатое кальцо» па маршрутах Нясвіж–Мір–Навагрудак ці «адроджаных» замкаў, ружанскага і косаўскага палацаў, паркаў і мемарыяльных сядзібаў і г. д.

Апошнім часам у сувязі з дэнацыяналізацыяй нерухомай гістарычнай спадчыны і ўзнікненнем слоя прыватных уласнікаў старадаўняй забудовы ад сферы кантролю рашуча адціснулі грамадскасць, і ўся ўлада над лёсам культурных і гістарычных помнікаў засяродзілася ў руках чынавенства. Як яно распараджаецца тым, што належыць народу, яскрава сведчыць так званая рэстаўрацыя Верхняга горада Мінска, пра што не забудуцца ўзгадваць і праз сто гадоў як пра прыклад архітэктурнай непісьменнасці і несумленнасці, падмацаваных чыноўніцкімі хітрыкамі.

Цяпер Савет міністраў Беларусі прыняў новую пастанову па адраджэнні гістарычных цэнтраў гарадоў рэспублікі. Нібыта раней пра гэта ніхто не ведаў. Стаялі ж навідавоку гэтыя цэнтры і сем гадоў таму, і, што важна, былі яны ў лепшым стане і фізічна большым памеры. І тады, і раней грамадскасць заклікала іх паважліва аднавіць. Дык ці варта замілоўвацца, што нарэшце і Саўмін іх заўважыў? Трыццацігадовы «аднаўленцкі» вопыт даводзіць, што не мае сэнсу радавацца падпісанай паперыне, пакуль яе змест не ўвасобіцца ў рэальную форму. Тым болей, што свежая пастанова нікога не здзівіць смеласцю задумаў. Яна даручае міністэрствам архітэктуры і будаўніцтва, культуры, жыллёва-камунальнай гаспадаркі, аблвыканкамам і асобна Мінгарвыканкаму падаць на працягу года (да наступнага 1 ліпеня) ва ўрад свае прапановы аб парадку рэалізацыі праектаў адраджэння значных гісторыка-культурных каштоўнасцяў. Маюцца на ўвазе вядомыя архітэктурныя комплексы і асобныя пабудовы, якія маглі ствараць гонар нашай культурнай спадчыны, але не стваралі, бо пакрысе руйнаваліся і руйнуюцца сёння.

Згодна з саўмінаўскай пастановай, два наступныя гады аддаюцца на правядзенне пашпартызацыі гісторыка-культурных каштоўнасцяў беларускай сталіцы і горада Гродна. Праект адраджэння гродзенскага гістарычнага цэнтра мусіць быць зроблены ўжо ў 2002 годзе і пасля ўхвалення ўладамі будзе прадстаўлены ў сакратарыят Савета Еўропы для магчымай сумеснай рэалізацыі. Задума цалкам сучасная ў тым сэнсе, што грунтуецца на жаданні атрымаць замежнае спонсарства ці паасобныя гранты і менш выдаткаваць уласных сродкаў. Але цяжка паверыць, што беларуская традыцыя «рэстаўрацыі» спадчыны заахвоціць еўрапейскіх спецыялістаў выкідаць грошы на вецер. Бо сёння немагчыма паказаць людзям хоць адзіны па-людску адроджаны помнік старажытнай архітэктуры, калі не лічыць касцёльных і царкоўных будынкаў, да рэстаўрацыі якіх дзяржаўныя органы не дакраналіся і пальцам.

Мінскія гарвыканкамаўскія службы заклікаюцца пастановай да большай актыўнасці ў справе аднаўлення Верхняга горада, што можна ўспрымаць выключна з пачуццём жаху, бо праведзеная там на заказ новых уласнікаў «рэстаўрацыя» ператварыла гэты гарадскі раён у нізкаякасны муляж без аніякай гісторыка-культурнай каштоўнасці і вартасці. Не забылася пастанова ўзгадаць і пра неабходнасць адраджэння (новай пабудовы) да 2005 года мінскай гарадской ратушы і царквы Святога Духа на плошчы Свабоды. Калі сітуацыя з ратушай больш-менш зразумелая і не можа выклікаць шырокай палемікі, бо і выгляд ратушы захаваўся на адзіным умоўным малюнку і невядома дзе яна дакладна стаяла, дык адносна царквы гэтак не скажаш. Тут усё нашмат складаней. Царква Святога Духа належала базыльянскаму манастыру і была пабудаваная ў 17-ым стагоддзі ў стылі барока. У 1840 годзе пасля скасавання уніі яе забралі ад уніятаў і перарабілі пад праваслаўную, а ў 1937 годзе на загад бальшавіцкага ўрада зруйнавалі дынамітам і на фундаментах размесцілі мінскі гарадскі звярынец. Як будуць яе адраджаць: у формах расійскай царквы ці ў барочных формах беларускай архітэктуры? Хто атрымае будынак у карыстанне? Калі беларускі экзархат пад яшчэ адну царкву, дык на плошчы Свабоды апынуцца два храмы з аднолькавай назвай. Ці цяперашняя царква Святога Духа, якая займае былы касцёл бернардзінак, нарэшце вернецца католікам? Усё гэта не другазначныя, а прынцыповыя пытанні, якія пастанова ніяк не асвятляе, бо ў нас не існуе стратэгіі рэстаўрацыі, канцэпцыі зберажэння нацыянальнай спадчыны і культуры наогул. Патрэбы народа захоўваць спадчыну і ў савецкі час, і сёння трактуюцца згодна з ідэямі бягучага моманту і часовага рэжыму. Адсутнасць стратэгіі, хоць бы прагматычнай, разлічанай на атрыманне грошай з культурнага турызму, пазбаўляе сэнсу ўсе крокі ў гэтым накірунку. Таму цяжка зразумець, якую карысць мяркуюць атрымаць саўмінаўскія стваральнікі пастановы, запісаўшы ў яе пункт аб распрацоўцы на працягу месяца праекта цэнтра падрыхтоўкі спецыялістаў у сферы культурнага турызму на базе Мірскага замка. Інакш кажучы, для Мірскага замка пакуль не знайшлі лепшага прыстасавання, бо гэтакі дазваляе падаць яго на разгляд Нацыянальнай камісіі Беларусі па справах ЮНЕСКА з надзеяй выцыганіць у наступным фінансаванне праз ааНаўскія праграмы.

Пастанова мела бы важкасць, калі б папярэдне з удзелам шырокай грамадскасці была распрацаваная і прынятая да выканання канцэпцыя адраджэння ўсяго комплексу нерухомай спадчыны з адпаведным развіццём датычных структураў. Цьмяная сітуацыя з фінансаваннем, адсутнасць культурнага турызму, неразуменне чынавенствам розніцы паміж каштоўнасцямі спадчыны і каштоўнасцямі сучаснага будаўніцтва зводзіць перспектыву аднаўлення архітэктурных помнікаў старажытнасці да клопату пра дробнага спонсара, якога жадаюць прывабіць дробнымі льготамі. Таму пастанова рэкамендуе органам мясцовага самакіравання вырашыць пытанне аб вызваленні ўласнікаў гісторыка-культурных каштоўнасцяў Брэста, Віцебска, Полацка, Пінска, Нясвіжа, Мсціслаўя ды іншых нашых гарадоў ад долевага ўдзелу ў развіцці інжынерна-транспартнай і сацыяльнай інфраструктуры. Нацыянальны інтарэс, дзяржаўная зацікаўленасць паранейшаму застаюцца ў баку.

**Альберціна ВЕЖНАВЕЦ**



Гродзенская фара Вітаўта



Ці паўплывае «культурны турызм» на адраджэнне такіх знішчаных помнікаў, як Асташынскі кальвінскі збор?



Тая ж фара Вітаўта як праваслаўны храм. Што будзе пры абнаўленні — касцёл ці царква?

# Інтарэс да клімату

## Беларускі пісьменнік Васіль Быкаў цэлы год жыве і працуе ў Франкфурце-на-Майне

З пачатку мінулага года Васіль Быкаў з жонкай жыве ў Германіі. Са студзеня ён – у Франкфурце-на-Майне, даўшым яму права пражывання на адзін год у рамках праграмы «Гарады-прытулкі». Франкфурт увайшоў у міжнародную сетку «*Cities of Asylum*», якая ўключае зараз 30 гарадоў, вясной 1998 года. «Па праўдзе кажучы, я не лічу сябе пісьменнікам у выгнанні, – кажа Васіль Быкаў на адпаведныя пытанні, – я проста прыняў запрашэнне горада». Знаходжанне яго там аплачваецца буйнейшым у свеце «Франкфурцкім кніжным кірмашом», адчыняецца які ў Франкфурце кожны год у кастрычніку.

Васіль Быкаў жыве ў невялікай, сціпла абстаўленай кватэры ў цэнтры Франкфурта. «Больш за ўсё ў Германіі мяне цікавіць дэмакратычны клімат. І перш за ўсё для мяне важнае пытанне, як нямецкай нацыі ўдалося звалодаць са сваім мінулым. Тут маюцца паралелі і з маёй радзімай. Але мне вельмі імпануе воля нямецкага народа звалодаць са сваім мінулым».

Па прызнанні пісьменніка, ён рады ўжо таму, што можа без турботаў працаваць у Франкфурце, так як у яго яшчэ ёсць творчыя задумкі і іх літаратурнае ўвасабленне патрабуе засяроджанасці і спакою. Гаворка ідзе пра аўтабіяграфічны твор, які ў любым выпадку павінны быць пачаты ў Франкфурце. У ім таксама будзе шмат напісана аб Германіі, таму што і сам Быкаў як асоба сфарміраваўся пад уражаннем вайны з Германіяй. Аднак не меншае ўражанне стварылі на яго воля да прымірэння і здольнасць да крытычнага самааналізу, праяўленымі такімі людзьмі, як Генрых Бёль і Вілі Брандт. «Мы ж і самі знаходзімся ў такім становішчы, калі проста абавязаныя шчыра зірнуць на нашу краіну і гісторыю», — кажа ён і ўспамінае аб тым, як Вілі Брандт стаў на калені перад манументам ахвярам варшаўскага гета. – У прынцыпе, сучасным палітыкам Беларусі і Расіі таксама трэба б здзейсніць аналагічны па сіле сімвалічны акт пакаяння за памылкі іх папярэднікаў, каб на маёй радзіме магла, нарэшце, пачацца вынікова дыскусія аб уласнай гісторыі».

Моў уздзеянне на яго і Генрых Бёль, з якім Быкава звязвае глыбокае біяграфічнае сваяцтва: у час вайны яны ў адзін і той жа час удзельнічалі ў баях у Малдавіі (праўда, не сустракаліся). У 1983 годзе ён упершыню асабіста пазнаёміўся з лаўрэатам Нобелеўскай прэміі на кангрэсе пісьменнікаў у Кёльне, і яго ідэю пераадолення варожасці любоўю, заснаваную на інтэрпрэтацыі драмы «Рамэо і Джульета», Быкаў прыняў менавіта так, як яна і была задуманая: ён пачуў у ёй заклік да пераадолення халоднай вайны і прымірэння народаў.

Ці не змянілася яго творчасць з часу знаходжання па-за Радзімай? «Я не ведаю, – кажа ён, – але мая жонка лічыць, што з тае пары, як мы жывем у Германіі, мае літаратурныя творы сталі дабрэйшымі і мякчэйшымі ў адзнаках. Магчыма, гэта тлумачыцца тым, што тут я магу спакойна займацца сваёй любімай справай».

**Леанід РАЗЛАДАЎ,**
**па матэрыялах часопіса «*Deutschland*»**

# Мсціслаў прыме аматараў пісьменнасці

*2 верасня ў Мсціслаўі адбудзецца святкаванне Дня беларускага пісьменства.*

Пра гэта на прэс-канферэнцыі паведаміў старшыня Дзяржаўнага камітэта па друку Міхаіл Падгайны. Закрануўшы праграмы акцыі, ён звярнуў увагу на традыцыйную экспедыцыю «Дарога да святыняў», якая распачнецца 29 жніўня і пройдзе па Мінскай, Гомельскай і Магілёўскай абласцях. З удзельнікамі экспедыцыі, якая праводзіцца па благаславенні мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, патрыяршага экзарха ўсяе Беларусі, будзе знаходзіцца нязгасная лампада з жыватворным агнём ад труны Госпада. 2 верасня экспедыцыя завершыцца ў Мсціслаўі літургіяй і хрэсным ходам у саборы святога князя Аляксандра Неўскага. У праграме свята — мастацка-гістарычнае прадстаўленне «Ад нашых дзён да часоў першаасветнікаў», цырымонія адкрыцця помніка наступніку беларускага першадрукара Ф.Скарыны і расійскаму першадрукару, граверу Пятру Мсціслаўцу, які разам з Іванам Фёдаравым адкрыў першую друкарню ў Маскве (1564), а ў сярэдзіне 70-х гадоў XVI стагоддзя — у Вільні, сустрэчы з беларускімі і замежнымі літаратарамі. Дарэчы, па словах сп. Падгайнага, у святце возьмуць удзел пісьменнікі Кіпра, Малдовы, Расіі, Украіны і Чэхіі, а таксама дыпламаты. Апрача таго, у рамках свята адбудзецца фестываль беларускай кнігі і прэсы, свята дзіцячай кнігі і прэсы «Скажы дзецям «так», кірмаш «Мсціслаўскі падворак», гала-канцэрт майстроў мастацтваў, музычны спектакль аб жыцці нябеснай заступніцы Беларусі Еўфрасінні Полацкай «Спакуса» і святочны феервек. Сцэнарый свята напісаны старшынёй Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольгай Іпатавай.

Кажучы аб фінансаванні акцыі, Міхаіл Падгайны зазначыў, што сёлета спецыяльна для арганізацыі свята ўрад упершыню выдзеліў Магілёўскаму аблвыканкаму 180 мільёнаў рублёў на ўзвядзенне помніка П.Мсціслаўцу і «прывядзенне горада ў прыстойны выгляд». Разам з тым, па словах старшыні Дзяржкамдруку, вялікі ўклад у падрыхтоўку горада да свята ўнеслі ўлады і прадпрыемствы Мсціслаўя.

Па словах Міхаіла Падгайнага, у 2002 годзе святкаванне Дня беларускага пісьменства адбудзецца ў Міры каля адрэстаўраванага замка.

**Марат ГАРАВЫ**

# «Мы цалкам упэўненыя, што здымем канцоўку гэтай гісторыі ў бліжэйшыя месяцы»

13 жніўня адбылася прэс-канферэнцыя наконт даўно запланаванага фестывалю дакументальнага кіно на Беларусі з удзелам беларускіх рэжысёраў Юрыя Хашчавацкага і Леаніда Міндліна, фільмы якіх прадстаўлены на фестывалі. Як дадатак ідзе фільм Паўла Шарамета «Дзікае паляванне», астатнія фільмы рэжысёраў іншых краінаў. Як паведаміў прадстаўнік Маладзёжнага культурнага цэнтра Алесь Мазур, фестываль пройдзе ў межах мабілізацыйнай кампаніі «Выбірай», актывістамі якой праводзіцца такі прагляд і па-за межамі горада, каб паказаць людзям, якім чынам праходзілі палітычныя змены ў іншых краінах. Мэта фестывалю паказваць фільмы ў кінатэатрах, каб пасля можна было наладзіць дыскусію. Увесь прагляд будзе цягнуцца месяц. У Мінску ладзіцца чатыры публічныя прагляды плюс прагляды ў грамадскіх арганізацыях, якія ад нас не залежаць. Буйным арганізацыям былі дадзеныя камплекты касетаў, якія яны змогуць паказваць на працягу двух-трох месяцаў пасля. На кожную вобласць дадзена па дванаццаць камплектаў, на 10-12 гарадоў адпаведна.

Фестываль дакументальнага кіно «Адзін свет», што існуе ўжо на працягу трох гадоў (і ладзіўся, акрамя Чэшскай рэспублікі, у Польшчы, Славакіі, Югаславіі), нарэшце распачаў паказ сваіх фільмаў на Беларусі. Але зноў жа нелегальна, бо працэс выдачы дазволу дзяржаўнага рэгістра вырашылі зацягнуць так, каб фестываль не змог функцыянаваць (не меў права праводзіць адкрытыя публічныя паказы) як мінімум да выбараў. Мясцовыя арганізатары — Маладзёжны культурны цэнтр — зрабілі такім чынам: запрашаюць людзей да нейкага месца, потым праводзяць іх у залу. Інфармацыя пра фестываль распаўсюджваецца праз запрашальнікі, што раздаюцца ў горадзе, і праз афішы.

Падчас прагляду фільмаў у Гомелі была затрыманая дырэктарка кіназалу, а касеты канфіскаваныя.

З нагоды гэтага рэжысёр **Юры ХАШЧАВАЦКІ** сказаў журналістам:

— Гісторыя такім чынам накопліваецца. Ніколі ні ад чаго не збяжыш, ніколі не схаваешся. Гэта для тых людзей, якія забараняюць рэгістрацыю фестывалю. Мы цалкам упэўненыя, што здымем канцоўку гэтай гісторыі. Спадзяемся, што адбудзецца гэта ў бліжэйшыя месяцы. Канец аперацыі «Прэзідэнт». Цяпер мы з Леанідам (Міндлінам) працуем, каб пабудаваць грамадскае незалежнае тэлебачанне ў Беларусі. У нас ёсць вялізныя напрацоўкі. Вось выйграем гэтыя выбары — з'явіцца незалежны канал, рэйтынг якога можна будзе лёгка ўзняць амаль без грошай, без сродкаў: прыкладна з год будзе ісці суд, мы возьмем права, каб паказваць усё гэта.

***— Ці падобныя беларускія працэсы да тых, што адбываліся ў Чэхіі?***

— Працэсы, якія адбываліся ў Чэхіі, адбываліся на хвалі краху камуністычнай сістэмы. Тады практычна тварыўся хаос. Тое падступнае апазіцыйнае сцячэнне, якое спела з 1968 года, тая хваля падняла практычна наверх і ўвабрала ў сябе. Каб не адбылося разрушэння камуністычнай сістэмы, ім так лёгка не давялося б правесці Аксамітавую рэвалюцыю. Сёння ў нас, мы бачым, маятнік качнуўся ўлева, прычым не толькі ў нас, але і ў Еўропе. Левыя сталі прыходзіць зноўку да ўлады. Умацаваліся ў створаных раней правымі краінах левыя настроі. Таму сёння мы сутыкаемся з тым, што хваля, якая паднялася сёння ў Беларусі, яна гасіцца ў асноўным тымі хвалямі і не толькі з Расіі, але і з Германіі. Мы не можам скарыстацца гістарычнымі сітуацыямі ў той ці іншай ступені. Таму сёння, выбіраючы адзінага кандыдата, глядзім, што больш шанцаў у левага кандыдата, чым у правага. Гэта адчуваюць многія партыі.

Шкада, але ў нас менш людзей, якія добра ўсведамляюць, што адбываецца і што будзе. У нас ёсць легальная апазіцыя, чаго не было тады ў Чэхіі.

Да разважанняў Хашчавацкага па набалелых праблемах далучыўся **Леанід МІНДЛІН**:

— Нядаўна прыязджалі заходнія журналісты, якія казалі, чаго вас так мала, нічога ў вас не атрымаецца. Адзін чалавек сказаў, ніхто не ведае, з якой маленькай сняжынкі адбудзецца лавіна. Напрыклад, на фестывалі «Сфінкс» у 1989 годзе. З аднаго боку, там былі гістарычныя абставіны, з другога — адбываліся жудасныя рэчы на Вроцлаўскай плошчы, калі білі, калацілі дубінкамі, бронетранспарцёры, спецназ і г.д. Тым не менш на наступны дзень яшэ больш людзей выйшла на вуліцу, заводы сталі. Лавіна паднялася з гэтай сняжынкі. Цяпер у архівах ляжаць усе дакументы 40-80-ых гг., нават ксеракопіі санкцыяў на праслухоўванне кватэры Вацлава Гавела.

Дыскусія на тэму працягвалася Юрыем Хашчавацкім:

— Узгадайце 1988 год, «Дзяды». 30 тысяч каля Маскоўскіх могілак, як толькі пагналі, далі дубінамі, газам, на наступны мітынг прыйшло ўжо тысяч 100. Гэтыя працэсы ў многім паўтараліся, яны былі падобнымі. Аднак тая сіла не мела той сілы, якая сёння.

Улады не важна, дзе, напрыклад, на Украіне і Беларусі навучыліся пераводзіць працэсы ў хранічныя. Звярніце ўвагу, як яны справіліся на Украіне са справай Гангадзе. Была хроніка. Хранічна людзі выходзілі, палатачныя гарадкі. Улады давалі магчымасць трошкі выплеснуцца, яны навучыліся на гэты кацёл насаджваць клапан, ураўноўваць ціск. Мы сутыкаемся з гэтымі мадэлямі цяпер як у Беларусі, так і ў Расіі. Ну шахцёры грукаюць каскамі, няхай сабе грукаюць дзень, месяц і г.д., гэта надакучвае нават гледачу навінаў. На іх не звяртаюць увагу.

Вельмі прыкра, што людзі не адгукаюцца на вострыя праблемы грамадства, іх яны мала хвалююць, не кранаюць за жывое. Тое ж у нас са зніклымі людзьмі.

**Ірына ТОЎСЦІК**

# ВРЕМЯ УБИРАТЬ!



Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1745 Нумар падпісаны ў друк 9/08/2001 (15:00) Наклад — 10.110